Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 2—11
(Wilno, Ostrobramska 2—11).
Адчынена
ад 9 да 19 г.

Часапіс
выходзіць
раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.

№ 4 (13) Вільня, 5-га сакавіка 1937 г. Год II.

## Прычыны акту 25 сакавіка і яго значэньне.

Беларускае незалежнае грамадзянства з году ў год сьвяткуе дзень 25 сакавіка, які зьяўляецца вялікім днём у беларускім адраджэньні і ў разьвіцьці беларускай незалежніцкай думкі. У гэты дзень, 19 гадоў таму назад, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі ў Менску абвесьціла ўсяму сьвету, што Беларусь парывае ўсе дагэтуляшнія палітычна-дзяржаўныя сувязі і стаецца вольнай і незалежнай дзяржавай. Праўда, *фактычнай* незалежнасьці Беларускі народ не патрапіў здабыць, але *юрыдычную* незалежнасьць на падставе гэтага акту ён мае. І гэта юрыдычная незалежнасьць ёсьць цяпер пуцяводнай зоркай для беларусаў у іхнай працы.

Аднак, хоць ужо прайшло 19 гадоў ад дня абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, яшчэ ня ўсе беларусы зразумелі важнасьць акту 25 сакавіка. Адны не прывязваюць да яго большае вагі, кажучы, што незалежнасьць для Беларускага народу непатрэбная і беларусы могуць уліцца ў суседнія народы, прыймаючы іх мову, культуру і народнасьць. Яны кажуць, што такім парадкам беларусы будуць карыстацца з „вышэйшай“ культуры, „выробленай“ мовы, гатовых грамадзкіх форм жыцьця і будуць шчасьлівейшымі, чым у нейкай Беларусі. Другія кажуць, што Беларусь незалежнасьці не здабудзе, бо завялікія перашкоды ляглі ёй на дарозе, а замала ёсьць сьведамых сіл у народзе, і кажуць яшчэ, што Беларусь забедная, каб быць незалежнай.

Гэтакіх людзей цяпер многа, а было яшчэ болей у 1918 годзе, калі адбыўся акт 25 сакавіка, аднак, ня гледзячы на ўсе сумнівы, незалежнасьць актам 25 сакавіка была абвешчана... Значыць, трэба дапусьціць, што былі нейкія *глыбейшыя прычыны*, якія прымусілі сяброў Рады Бел. Н. Рэспублікі прыняць і апублікаваць акт незалежнасьці Беларусі.

Якія-ж гэта былі прычыны?

Да 1918 году ідэя незалежнасьці ўважалася за нерэальную. Аж да прыходу ў Менск немцаў (што адбылося 21. II. 1918), усе беларускія дзеячы стаялі на грунце аўтаноміі Беларусі ў граніцах вялікай Расейскай рэспублікі. Нават беларускай дэлегацыі, якая выяжджала ў Берасьце на мірныя перагаворы, каб там бараніць правоў Беларусі, быў дадзены Радай наказ стаяць на грунце аўтаноміі ў граніцах Расейскай Дэмакратычнай Фэдэратыўнай Рэспублікі! (пункт 1-шы наказу). Гэта было ў студні месяцы 1918 году. Але ўжо тады ў некаторых дзеячоў паўстае думка аб патрэбе поўнай незалежнасьці Беларусі, бо толькі гэтакім спосабам беларуская дэлегацыя магла б выступаць самастойна ў абароне свайго краю. Як ведама, старшыня расейскай бальшавіцкай дэлегацыі ў Берасьці, Троцкі, тады беларускай дэлегацыі не прызнаў, заяўляючы, што ён рэпрэзэнтуе ўсю Расею, а ў тым ліку і Беларусь.

З прыходам немцаў газэта „Вольная Беларусь“ (№ 7, 3. III. 18) што выходзіла тады ў Менску, падняла справу незалежнасьці, кажучы, што далейшая залежнасьць Беларусі ад расейскай дзяржавы і расейскай палітыкі шкодная для бел. народу. Бяручы пад увагу ўсе тагачасныя зьдзекі камуністаў над беларускім вызвольным рухам, (разгон Усебеларускага Кангрэсу і інш.), „В. Беларусь“ піша, што „народ моўчкі і пакорна, з патаёмнай надзеяй на паратунак іншага гатунку, стрэў акупацыю роднага краю праз нямецкае войска... Раптам ня стала і разьбілася магчымасьць на фэдэратыўны зьвязак пры старым палітычным цэнтры. „Была без радости любовь, разлука стала без печали“ — кажа „Вольная Беларусь“ аб сувязі з Расеяй. Асталося адно, моцнае і непарушнае, як само жыцьцё — *гэта дзяржаўная незалежнасьць нашае многапакутнае Бацькаўшчыны Беларусі.* Тут і толькі тут наш паратунак ад нацыянальнага, палітычнага і сацыяльнага палону“.

Гэтак пісала „Вольная Беларусь“ у пачатку сакавіка 1918 году.

Значыць, паводле „В. Беларусі“, канешнасьць і прычыны абвешчаньня незалежнасьці Беларусі крыюцца ня толькі ў палітычных абставінах, але нацыянальных, а нават сацыяльных.

У тым часе ўсе суседнія народы былі ўжо абвесьціўшы незалежнасьць сваіх краін і стараліся пашырыць свае ўладаньні коштам беларускіх зямель, якія, паводле іх былі *terra nullius* (зямлёй нічыей), г. зн. ня мелі свайго ўласьніка. Апроч гэтага тагачасныя бел. палітыкі, даказваючы патрэбу незалежнасьці, паклікаліся і на той факт, што ніводзен народ ня можа правільна разьвівацца, калі ня будзе мець сваей дзяржавы. Народы, якія ня маюць сваей дзяржавы, выміраюць. Чалавек, спачуваючы свайму народу і жадаючы яму поўнага разьвіцьця, ня можа быць анты-дзяржаўнікам — назалі яны.

Апроч гэтага бел. дзеячы даказвалі, што беларускаму народу нічога ня дасьць сацыяльная рэвалюцыя, калі ён ня будзе мець сваей дзяржавы. Чужынцы — пралетары прыйдуць і разграбяць усю беларускую нацыянальную маемасьць, так як даўней грабілі капіталісты... Прыйдуць і завядуць такі сацыяльны лад, які для іх карысны, а не такі, які карысны для беларускага народу. Толькі пры поўнай незалежнасьці можна будзе завясьці сацыяльны лад, згодны з натурай, традыцыямі і імкненьнямі Бел. народу. Апроч гэтага імкненьне да незалежнасьці апіраецца на вялікім прыродным праве кожнага народу быць вольным і незалежным. Гэтае імкненьне ня прыносіць ніякаму народу крыўды, бо жадае тварыць незалежнасьць не на чужой тэрыторыі, а на сваёй. Гэтае прыроднае права Бел. народу да незалежнасьці адчувалі ягоны прадстаўнікі тады, калі прыступалі да акту абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Ад сябе адзначым, што дагэтуль галоўнай мэтай некаторых беларускіх кірункаў было не культурнае і нацыянальнае ўсьведамленьне нашага народу, а выключна сацыяльнае, каб такім чынам далучыцца і памагчы пашырэньню сусьветнай рэвалюцыі. Гэтакую тактыку мы ўважаем за памылковую, бо сацыяльная рэвалюцыя нават у сусьветным маштабе ня дасьць беларускаму народу ўсіх правоў і не заспакоіць усіх яго нацыянальных патрэб, калі бел. народ ня будзе усяго гэтага дамагацца. А каб дамагацца, трэба быць сьведамым як сваіх правоў, так і сваіх мэтаў. Бяз гэтай сьведамасьці бел. народ ня зможа нават выбраць для сябе такога грамадзкага строю, які яму найболей падабаецца, а будзе прымушаны жыць у такім строю, які яму накінуць дужэйшыя суседзі (камунізм, фашызм). Без незалежнасьці беларусы будуць змагацца за чужыя інтарэсы.

Якія-ж карысьці даў акт 25 сакавіка?

Гэты акт прымусіў бальшавікоў утварыць г. зв. Савецкую Беларусь і абвесьціць яе незалежнасьць, што яны і зрабілі дня 1. I. 1919 году. Праўда, гэтае абвешчаньне мае толькі фармальнае значэньне, бо *фактычнае* незалежнасьці Сав. Беларусь ня мае, але ўсёжтакі становіць юрыдычны акт міжнароднага значэньня.

Акт 25 сакавіка ёсьць ар'ентацыйным пунктам для ўсіх беларусаў, якія шчыра жадаюць дабра для свайго народу. Хоць гэты акт дзеля слабасьці беларускіх сіл і дзеля міжнародных абставін і не ўдалося правесьці ў жыцьцё, то трэба прызнаць, што ён глыбока зрэфармаваў і яшчэ рэфармуе беларускую народную душу. Романтычны назоў „пуцяводнай зоркі“ мы замянілі-б на „ар'ентацыйны пункт“.

Прыглядаючыся да дзевятнаццаці-гадовай падарожы нашага народу (ад 1918 да 1937 г.) мы спасьцерагаем, што беларускі народ стаў болей сьведамым, болей палітычна і грамадзка дасьпелым. Дзеля гэтага трэба прызнаць, што аддаляючыся з кожным годам ад 25 сакавіка 1918 году, ён не аддаляецца ад свайго найвышэйшага ідэалу.

## Інтэрнацыянальныя імкненьні і Беларусы.

Прыглядаючыся да сучасных нацыянальных рухаў дзяржаўных народаў, аб'ектыўнасьць вымагае сьцьвердзіць вялікі ўзрост нацыяналізму ў гэтых народаў, каторы штораз больш робіцца ваюючым і мяжуе з нейкім фанатызмам. Гэтыя нацыянальна шовіністычныя рухі адзначаюцца тым, што бязлітасна змагаюцца з іншымі нацыяльнымі рухамі, асабліва народаў недзяржаўных. Мэты гэтага фанатычнага нацыяналізму — перамагчы іншыя нацыянальнасьці, асыміляваць іх. Гэтак, напрыклад, у Італіі ёсьць невялікая славянская меншасьць. Уціск тасаваны да яе італьянскім нацыяналізмам натолькі цяжкі і разнаякі, што напрыклад бацьком трэба мець вялікую адвагу, каб даць дзіцяці славянскае імя. Тое самае можна сказаць адносна шмат якіх краёў Эўропы.

Падобныя нацыяналізмы выклікаюць хаваную або яўную ненавісьць ня толькі ў народаў уціскаваных, але нават у часткі народу пануючага. У гэтай ненавісьці якраз можа мець сваё наймацнейшае карэньне іншы, процілежны кірунак, каторы адкідае ўсякі нацыяналізм, а на яго месца высоўвае інтэрнацыянал — міжнародную салідарнасьць працоўных. Кірунак гэты кажа, што для працоўных масаў усякі нацыяналізм, скуль-бы ён не паходзіў, ёсьць гэткім-жа ворагам, як і ўладаючыя клясы. Працоўныя розных нацыянальнасьцяў павінны змагацца за свае клясавыя інтарэсы, нацыянальныя-же розьніцы не павінны іх дзяліць. Мэтай гэтага кірунку ёсьць інтэрнацыянальнае грамадзянства. Разумеючы добра, што цалком зьнесьці нацыянальных асаблівасьцяў паасобных народаў ня ўдасца, інтэрнацыянальны кірунак гатоў прызнаць некаторае значэньне гэтым асаблівасьцям, аднак зводзіць іх выключна да значэньня формы, ў якой павінен вылівацца інтэрнацыянальны зьмест.

У сучасным цяжкім палажэньні беларускага народу гэты рух можа мець падатны грунт. Гэта пытаньне бязумоўна часта ставіць сабе ня толькі беларускі інтэлігэнт, але і думаючы селянін і асабліва работнік і вырашае яго часта ў кірунку прыхільным да інтэрнацыяналу, да міжнароднай салідар-

насьці працоўных. Бо часта яму здаецца, што калі іншыя нацыяналізмы гэткія жорсткія і несправядлівыя ў адносінах да другіх, дык чым-жа лепшым можа быць беларускі нацыяналізм, калі толькі апранецца ў сілу, ды будзе мець сродкі і магчымасьці ў поўнай меры выявіць сваё аблічча. Да гэтага далучаецца пераканаваньне, быццам прыродным ідэалам працоўных усіх нацыянальнасьцяў ёсьць імкненьне да стварэньня міжнароднага грамадзянства, да інтэрнацыяналу, ў якім знойдзе послух кожны народ.

Ня можна адмовіць гэтай інтэрнацыянальнай думцы лёгічнага абаснаваньня і захапліваючай сілы. У параўнаньні з вузкімі нацыянальнымі „панадворкамі“ тут маем шырокі прастор, дзе чалавек можа поўнай грудзьдзю аддыхнуць.

Але гэта толькі ў тэорыі. На практыцы інтэрнацыянальны кірунак у беларускім руху ня можа і не павінен мець шырэйшых пэрспэктываў разьвіцьця. Ён будзе разьвівацца толькі датуль, пакуль беларускія масы не пазнаюць сябе, хто яны такія, і дзе фактычна ляжаць іх інтарэсы. Галоўныя прычыны тут наступныя.

Перш за ўсё трэба адцеміць, што імкненьне да інтэрнацыяналу зусім не зьяўляецца нейкай неабходнасьцю, выплываючай з клясавых інтарэсаў працуючых масаў бяз розьніцы нацыянальнасьці. Доказам гэтага зьяўляюцца сучасная Нямеччына і Італія. Як-бы не адносіцца да гітлераўскага або фашыстаўскага рэжыму, аб'ектыўнасьць патрабуе сьцьвердзіць, што рухі гэтыя былі і ёсьць рухамі шырокіх працуючых масаў пралетарыяту, ды яшчэ гэткага сьведамага, як нямецкі. На нашых-жа вачох адбываўся ўзрост гітлераўскай партыі ў Нямеччыне літэральна з нічога, а да якога масава ўліваўся між іншымі і нямецкі пралетарыят. А вядома, што гітлераўскі рух зьяўляецца аж надта нацыянальным і інтарэсы Нямеччыны ставіць на першы плян. Прыкладаў гэткіх, дзе пралетарскія масы і сялянства захапліваліся нацыяналізмам ды нават дужа вострым, можна было-б даць значна больш. Аднак і прыкладу Нямеччыны хопіць, каб сьцьвердзіць, што ідэя міжнароднай салідарнасьці, інтэрнацыянал, ня ёсьць выключнай ідэолёгіяй працоўных масаў. А гэта пазбаўляе інтэрнацыянал яго блеску і дужа зьмяншае яго прыцягваючую сілу.

Другім важкім дзейнікам, каторы прамаўляе супроць інтэрнацыяналу і практычна пазбаўляе яго значэньня, ёсьць супярэчнасьць інтарэсаў працоўных масаў розных нацыянальнасьцяў. Супярэчнасьць гэта выплывае з розьніцы нацыянальных інтарэсаў. Параўнаем дзеля прыкладу нацыянальныя інтарэсы народу сільнага, з добра розьвітай прамысловасьцю, з надмерам насельніцтва, каторы зьяўляецца лішнім у бацькаўшыне і павінен штогод эміграваць, і інтарэсы народу слабейшага, ня маючага надмеру насельніцтва і з нявыкарыстанымі прыроднымі багацьцямі. Незалежна ад таго, якую-б уладу гэтая народы мелі — буржуазную ці пролетарскую, заўсёды сільнейшы будзе імкнуцца да экспансіі, а слабейшы да абароны сваіх прыродных магчымасьцяў для сябе. І ніякія лёзунгі аб міжнароднай салідарнасьці нічога тут не памогуць. Прыкладаў гэтага можна шмат знайсьці ў адносінах народаў СССР. Там сільнейшы народ-расейскі — трымае ў паслухмянасьці слабейшыя. Праўда, прыкрываецца гэта манлівым сьцягам дабравольнай згоды, ніхто аднак паважна гэтаму верыць ня можа і на гэта ёсьць аж надта доказаў. Досыць паклікацца на прасьледаваньне ўсялякага нацыянальнага руху іншых народаў у межах СССР, тады як расейскі нацыяналізм, асабліва ў апошнія часы, даволі шпарка ўзрастае і не напатыкае на перашкоды.

Гэткім парадкам трэба зрабіць вынавак, што міжнародная салідарнасьць працоўных ня можа даць беларускаму народу здаваленьня ўсіх яго патрэбаў. Каб магчы іх зьдзейсьніць, беларускі народ павінен быць сьведамы сваіх нацыянальных і сацыяльных інтарэсаў. Гэта-ж сьведамасьць бязумоўна выкліча ўзрост у беларускіх масах нацыянальнага пагуцьця, што наглядаецца ў іншых народаў. Зразумела, непажаданым было-б разьвіцьцё ў беларускіх масах шовінізму, аднак калі ён дзе і праяўляецца, дык гэта зьявішча не зьяўляецца ненармальным, асабліва калі зважыць умовы, ў якіх жыве беларускі народ і што яго нацыяналізм зьяўляецца абаронным. Беларускі народ не патрабуе і не павінен чужацца іншых народаў, аднак аб поўнай салідарнасьці з іншымі народамі можна будзе казаць толькі тады, калі бел. народ зьдзейсьніць свае нацыянальныя і сацыяльныя мэты, і будзе роўным з іншымі. Да гэтага-ж часу гутаркі аб міжнароднай салідарнасьці могуць толькі адцягваць наш народ ад яго беспасярэдных мэтаў і перашкаджаць іх зьдзейсьненьню.

*М. Ш.*

# На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

### Рэкурс БІГ і К. да Міністэрства Унутр. Спраў.

Як мы ўжо падавалі ў прошлым н-ры „Б. Фр.“, Віл. Ваявода пастановай з дня 22.І. г. г. закрыў БІГ і К. Закіды Інстытуту пастаўлены такія самыя, якія былі пастаўлены Віл. Стараствам пры спыненьні дзейнасьці, іменна: БІГ і К. быў уцягнуты Т-вам Б. Школы да інспіраванай і кіраванай Кам. Партыяй Зах. Беларусі г.зв. „школьнай акцыі“, якая была настаўлена выключна на дражненьне нацыянальных адносін і буджэньне ненавісьці да дзяржаўных уладаў і Джяржавы; школьная акцыя мела ўсе прыметы нелегальнай дзейнасьці, супярэчнай з абавязуючымі прадпісаньнямі права і шкоднай для інтарэсаў Дзяржавы; стварэньне г. зв. „Школьнага Сакратарыяту«, які ня быў рэестраваны на падставе закону ао т-вах і які выдаваў публікацыі да насельніцтва, каторыя былі забраны, забраньне іх было пацьверджана Віл. Акружн. Судом, бо мелі ў сабе прыметы праступкаў, азначаных у Карным Кодэксе; БІГ і К беспасрэдна і пасрэдна праз „Школьны Сакратарыят“ сьведама і консэквэнтна ствараў настроі нездаваленьня пасярод насельніцтва і пастаянны фэрмэнт, высоўваючы максымальныя клічы, інспіраваныя КПЗБ, ня маючыя фармальнага і праўнага абаснаваньня ў абавязуючых у Польскай Дзяржаве ўставах і прадпісаньнях.

Адказваючы на гэтыя закіды БІГ і К падаў у Мін. Унутр. Спраў такі *рэкурс*:

„Пастановай Пана Віленскага Ваяводы з дня 22.І. г. г. SPP. 2989 Бел. Інстытут Г. і К. быў закрыты бо ягоная дзейнасьць, паводле асуджэньня Пана Ваяводы, выступала проціў абязуючаму закону, азначанаму кругу і спосабам дзейнасьці і грозіла бясьпецы, супакою і публічнаму парадку. На абаснаваньне сваей пастановы Пан Ваявода падае некалькі доказаў, на якія адказваем:

1) Прадусім сьцьвярджаем з цэлай рашучасьцяй, што БІГ і К ня быў уцягнуты да школьнай акцыі Т-вам Бел. Школы і гэтая акцыя ня была інспіраваная КПЗБ. Наадварот, сьцьвярджаем перад гісторыяй, што ініцыятыва школьнай акцыі паўстала ў беларускім грамадзянстве пасьля ведамай заявы б. Куратара Віл. Школьнага Вокругу Пана Шэлёнгоўскага, каторы, як гэта падаў „Kurjer Wileński“ з дня 26.XI. 1935 году, меў заявіць на паседжаньні паслоў і сэнатараў тутэйшых земляў, што Беларусы школаў ў бацькаўскай мове не жадаюць і ёсьць многія дэклярацыі на ўвядзеньне мовы польскай. Пасьля такой заявы П. Куратара беларускае грамадзянства пачулася абражаным у сваіх нацыянальных пачуцьцях і гэтая заява была інспірацыяй да распачатку школьнай акцыі, па прыкладу гэтакай-жа акцыі ў 1925-26 гадох, каб яшчэ раз перад усім сьветам сьцьвердзіць, што Беларусы сваіх школ жадаюць і каб у рэзультаце гэтыя школы здабыць. Ініцыятыва школьнай акцыі выйшла не з камуністычных кругоў, але з беларускіх нацыя-

# Украінскія і польскія галасы ў абароне беларусаў.

Апошнім часам, пасьля ведадамых падзеяў на беларускім грунце, пачуліся галасы з боку ўкраінскай і польскай прэсы, а так-жа укр. і польскіх паслоў у сойме, якія сталі ў абароне правоў Бел. Народу. І так — яшчэ ў студні месяцы укр. пасол *Пэлэнськiй* сказаў у буджэтнай камісіі пры дэбаце над буджэтам міністэрства Унутр. спраў прамову, у якой між іншым адзначыў вельмі цяжкія ўмовы жыцьця беларусаў у Польшчы і аб памылковай польскай палітыцы адносна беларусаў. „Усё злучылася, каб павясьці дэнацыяналізацыю беларускага народу — казаў пас. Пэлэнськiй. Беларускі селянін, што дабіваецца легальнымі спосабамі, бо пры помачы плебісцыту, беларускае школы, атрымлівае кляймо проціўдзяржаўніка. На вёсцы не дапускаюць да культурнай дзейнасьці... Падымаю голас у абароне нашага братняга беларускага народу і пытаюся, у чыім інтарэсе ляжыць, каб беларускі народ цяперашняю экстэрмінацыйнаю палітыкаю заганяць у абоймы камунізму? Мы пэўны, што беларускі народ знойдзе сілы да змаганьня за свае нацыянальныя, належныя яму правы“ (падаём у дасловным перакладзе з „Діла“ (Nr. 10. 17.І.37).

Навязваючы да гэтай прамовы пасла Пэлэнськаго, *„Діло“* ў тымжа нумары прысьвячае беларускай справе вялікі артыкул пад заг. „У абароне братоў-беларусаў“, у якім падае інфармацыі аб апошніх рэвізіях, спыненьнях дзейнасьці бел. культурна-прасьветных арганізацыяў, а так-жа выказвае свае спасьцярогі і мяркаваньні аб сучаснай польскай палітыцы адносна беларусаў. Прыгэтым „Діло“ пытаецца: якая мэта такой нацыянальнай палітыкі? Бо паўстае дылема: *або* кіраўнікі польскай палітыкі ўважаюць, што можна наагул зьліквідаваць беларускі нацыянальны рух, *або* трэба прызнаць бел. народ за аддзельную адзінку, якая згодна з асновамі нацыяналёгіі, можа разьвівацца толькі ў кірунку дыфэрэнцыяцыі, а не нівэляцыі. Адказваючы на гэтую дылему, „Діло“ выказваецца за другую яе частку, іменна, што беларускага народу ня ўдасца зьнішчыць ніякім спосабам і што трэба з ім знайсьці нейкі спосаб сужыцьця. Далей „Діло“ ставіць, польскім палітыкам нават такое пытаньне: ці варта цалком лёгкаважыць беларускі элемент, так каб ня браць яго пад увагу на выпадак канфлікту з усходнім расейскім суседам?

У абароне беларусаў выступіў у сойме так-жа ген. *Жэлігоўскі.* Пасьля прамовы пас. Пэлэнськогo пачуліся галасы нездаваленьня некаторых польскіх паслоў; тады прамовіў ген. Жэлігоўскі, які цалком пацьвярдзіў словы пас. Пэлэнськогo, заяўляючы, што ён не згаджаецца з сучаснай польскай палітыкай адносна беларусаў і ўважае, што Польшч павінна выяўляць талеранцыю, бо ў гэтым яе сіла.

Але з найбольшай прамовай у сойме выступіла дн. 18. ІІ. пас. *В. Пэлчынская.* Гэтую прамову надрукаваў „Kurjer Wileński (21.II.г.г.) У сваей вельмі абшырнай прамове В. Пэлчынская зьвярнула ўвагу сойму, што на ўсходніх землях Польшчы існуюць ня толькі гаспадарчыя праблемы, якія трэба вырашыць, але і нацыянальныя, а прадусім *справа беларуская.* Хоць гэтая справа ня мае такое вагі і значэньня, як справа ўкраінская, то ўсёжтакі яе ня трэба лёгкаважыць. Галоўным заданьнем польскай палітыкі на ўсходніх землях — казала В. П., ёсьць прывязаць гэтае насельніцтва да Польскай дзяржавы, бо гэткая была палітыка Ягельлёнаў і марш. Пілсудскага. Але тое, што цяпер робіцца на гэтых землях, прабуджае ў многіх вялікі беспакой, бо інтэрасам Польшчы там пагражае небясьпека... На працягу некалькіх дзесяткаў гадоў расейская палітыка старалася ўбіць клін паміж Польшчай і Беларусяй. у сляды гэтай палітыкі пайшоў і СССР. Але трагедыя ў тым, што русыфікатарская палітыка падсьведама апрабуецца дзейнікамі польскай адміністрацыі, якая ўважае нацыянальную беларускую сьведамасьць за варожасьць да Польскай Дзяржавы. Гэта ёсьць пануры грэх, у каторым крыецца вялікая небясьпека для польскай дзяржаўнасьці. Я ня веру — кажа В. П., каб беларускі селянін у вялікай сваей масе забыўся сваей мовы і даўся спольшчыць. Змаганьне з мовай беларускай ня дасьць ніякіх карысных для Польшчы рэзультатаў, бо ці можна выдаваць нейкія загады, што ня можна гаварыць пабеларуску ў урадах, што ня можна землямеру зварочвацца пабеларуску да сялян, што бел. мова ёсьць недапушчальная ў польскім радіо, а беларускі аб'язны тэатр быў-бы выразнай здрадай стану! Было-б памылкай падцягваць усіх гаворачых пабеларуску пад адзін паказьнік з народам польскім, хоць-бы ў іх і ня было яшчэ поўнай нац. сьведамасьці. Аб'яўленьне беларускай мове змаганьня ў рэзультаце можа даць беларусам пачуцьцё апрычонасьці і іншасьці. Здабываньне гэтых людзей для польшчыны павінна ісьці іншымі дарогамі. Дзяржаўная асыміляцыя ня ёсьць роўназначнай з языковай асыміляцыяй.

А цяпер праўда другая: ня трэба ўважаць беларускага руху за твор штучны і прамінучы. Гэты рух мае свой прыродны і рэальны грунт і свае разьвівальныя магчымасьці. Калі нават і зьліквідаваць тую ці іншую бел. арганізацыю, то гэта яшчэ ня значыць, што ў гэнай мясцовасьці зьліквідаваны нацыянальна-беларускі рух.

Да чаго вядзе палітыка забарон і перашкод адносна бел. культурна-прасьветных арганізацыяў? Гэтакая палітыка будзіць недавер да магчымасьці вядзеньня легальнае беларускае працы ў рамах Польскае Дзяржавы; будзіць няпрыхільнасьць да ўладаў; прабуджае пачуцяцё ўласнае сілы („змагаюцца з намі, бо нас баяцца“) і ўканцы найважнейшае: упіхае дзейныя адзінкі ў рамы працы нелегальнае, якая найчасьцей канчыцца на кантактых з КПЗБ. Дзеля гэтага палітыку забаронаў, перашкодаў і зачыняньняў трэба ўважаць за шкодную для Польскай Дзяржавы. Ліквідацыя ТБШ, праводжаная няраз спосабам жорсткім і безаглядным, прычынілася да ўзросту папулярнасьці гэтай арганізацыі, да паўстаньня легенды, А такія легенды, якія вырастаюць з жалю і раздражэньня, падкопваюцца пад аўторытэт дзяржавы. Знаю вёску, кажа В. П., дзе па сяньняшні дзень сяляне расказваюць, як ўлады забаранілі ў 1935 г.

нальных кругоў, якія дбаюць аб патрэбы Беларускага народу. Гэтыя кругі, згуртаваныя ў БІГ і К, выступілі з прапановай супольнай акцыі з Т-вам Бел. Школы — а не наадварот. Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі не адыграла тут ніякай ролі, бо ня была ані ініцыятаркай, ані інспіраторкай школьнай акцыі Камуністам ня ідзе аб дабро Беларускага народу, ані аб яго нацыянальныя вартасьці, але толькі аб пасеяньне закалоту і пашырэньне сваіх уплываў. ЗдабыцьцёБеларусамі ў Польшчы беларускіх школаў не ляжала ў інтарэсах камуністычных кругоў.

2) Школьная акцыя, ведзеная ў мінулым годзе БІГ і К і ТБШ, мела ўсе прыметы легальнай дзейнасьці, бо апіралася на ўставе з дня 31.VII. 1924 г. (Dz. U. Rz. P. Nr. 79 1924) і на Распараджэньні Міністра Вер. і Асьветы з дня 7.I. 1925 аб арганізацыі школьніцтва нацыянальных меншасьцяў на падставе ўставы з дня 31.VII. 1924 году. А тая акцыя, якая апіраецца на ўставе і на міністэрскім распараджэньні, ня можа мець ў сабе прыметаў нелегальнай акцыі, а як акцыя легальная, ня можа быць шкоднай для дзяржавы.

3) Стварэньне БІГ і К і ТБШ г. зв. Школьнага Сакратарыяту ня мела прымет праступку, бо гэны Сакратарыят ня меў характару таварыства, падлягаючага рэестрацыі. Быў ён толькі тэхнічным органам дзьвух арганізацыяў, і выконываў толькі тэхнічную працу, як прыйманьне карэспандэнцыі, высыланьне дэкляpацыяў і іншых друкаў, патрэбных пры вядзеньні школьнай акцыі. Гэтая акцыя была ведзена яўна, на воку адміністрацыйных уладаў і не спатыкала пачаткова з іх боку ніякага супраціву. Школьны Сакратарыят не выдаваў ад свайго імені ніякіх друкаў і публікацыяў, усе друкі і адозвы былі выдаваныя ад імя дзьвух арганізацыяў, вядучых школьную акцыю: БІГ і К і ТБШ. Забраная аднадзёўка п. заг. „За Беларускую Школу“ была выдана Янам Шутовічам, а не Школьным Сакратарыятам.

4) БІГ і К ані беспасрэдна, ані пасрэдна не ствараў пасярод насельніцтва настрояў незадаваленьня, адно імкнуўся ў сваей дзейнасьці да падняцьця культурнага і эканамічнага палажэньня гэтага насельніцтва. Калі-ж у часе школьнай акцыі і здараліся выпадкі нездаваленьня, дык не паходзілі яны з дзейнасьці Інстытуту, а з іншых прычын. У школьны Сакратарыят прыходзіла многа скаргаў на перашкоды, якія былі стаўлены беларускаму насельніцтву ў ягоным праўным дамаганьні школы ў роднай мове паліцыяй і войтамі. Аб гэтых перашкодах мы пісалі Пану Міністру ў Мэморыяле і тут іх паўтараць ня будзем. Пан Ваявода ставіць нам закід пашыраньня пасярод беларускага насельніцтва „максымальных клічаў“, быццам інспіраваных КПЗБ. Ня ведаем, што Пан Ваявода разумее пад гэтымі клічамі,але калі ў гэтым прыпадку ідзе аб жаданьне беларускай школы, то гэтага жаданьня ніякам спосабам ня можна назваць клічам максымальным, але лепш мінімальным жаданьнем Беларускага народу, абапёртым урэшце на вышэй пададзенай уставе і міністэрскім распараджэньні. Дзеля таго жаданьне гэтае мае і фармальнае і праўнае абаснаваньне ў абавязуючых у Польскай Дзяржаве ўставах і аддзельных прадпісаньнях. Дзейнасьць гэтая ня выходзіла паза рамы статуту БІГ і К.

Дзеля гэтых прычын уважаем, што закрыцьцё Беларускага Інстытуту Г. і К. Панам Віленскім Ваяводай было неабаснаваным і дзеля гэтага зварочваемся да Пана Міністра з просьбай адмяніць пастанову Пана Ваяводы.

Вільня, 17 лютага 1937 г.

Старшыня Інстытуту: *Кс. В. Гадлеўскі*, за сакратара: *Ул. Казлоўскі.*

### „Беларуская Доля“.

Пад гэтакім загалоўкам нядаўна была выдана Язэпам Ярмалковічам аднаднёўка,якая аднак была сканфіскавана адм. уладамі. Як мы чулі, аднаднёўка стаяла на палітычнай плятформе БНА.

### Крыху аб абноўленай бел. прэсе.

У прошлым нумары мы пісалі аб *„Шляху Моладзі“*, які за студзень і выглядам і зьместам зрабіў даволі сымпатычнае ўражаньне. Нядаўна выйшаў сшытак за люты, які таксама ня ўступае нумару папярэдняму. Трошкі горай прэзэнтуецца абноўленая *„Самапомач“*, але і яна робіць лепшае ўражэньне, чым даўней. Даўнейшая „Самапомач“ была рэдагавана вельмі адарвана ад жыцьця і болей тэорэтычна, а калі і падавала практычныя парады і ўвагі, то ня брала пад увагу нашых беларускіх варункау, а болей загранічныя, заходня-эўрапэйскія. Магчыма, што ў гэтым адбівалася навуковая падгатоўка рэдактара, які кончыў аграномію ў Чэхаславаччыне. У нас трэба болей зварочваць увагу на мясцовыя варункі (вузкія шнуры поля, нястача штучнага ўгнаеньня і г. д.) і тварыць новы тып гаспадарчай, чыста беларускай помачы. Гэтай бядзе стараецца памагчы абноўленая „Самапомач“, якая ад новага году стала болей папулярным часапісам. Але трэба сказаць, што да поўнага здаваленьня патрэб бел. гаспадароў ёй яшчэ далёка.

Найгорай прадстаўляецца *„Хрысьціянская Думка“*, якая хоць і пачала выходзіць часьцей (двойчы ў месяц), вымагае аднак лепшай апрацоўкі матар'ялу і лепшага ўкладу. Даўней мы закідалі ёй няжыцьцёвасьць і адарваннасьць тэмаў, а цяпер найбольшай заганай абноўленай „Хр. Думкі“ ёсьць вельмі хаотычны і нізкі ровень газэты нават для сялянскага чытача. На наш пагляд трэба „Хр. Д.“ рэдагаваць папулярна, каб яна была даступна для народу, але папулярнасьць гэта яшчэ ня тое самае, што наіўнасьць. Бо ці не наіўнымі трэба прызнаць інфармацыі з загранічнай палітыкі або палітычныя вершы Лявона Ветрагона? Гэты апошні асьвятляе „палітыку“ ня толькі наіўна (якжа яму далёка да палітычнай сатыры такой „Мухі“ або і нашай „Маланкі“!), але і тэндэнцыйна, прыгэтым ягоная тэндэнцыя ідзе па лініі для нас вельмі загадковай. На гэта ўжо шмат хто зварочваў увагу. Яшчэ горш прадстаўляецца старонка для дзяцей: „Васількі“, якія маюць замяніць спыненыя „Пралескі“. У свой час мы мелі засьцярогі адносна рэдагаваньня „Пралесак“, але цяпер мусім прызнаць, што „Пралескі“ стаялі куды вышэй за „Васількі“. Хто хоча праканацца ў гэтым, няхай прачытае ў н-ры 2 „Хр. Думкі“ басьню „Тры браты“. Там ані ладу, ані складу, ані сэнсу за грош, хоць яна і пераложана з літоўскага. Дык трэба падняць ровень газэты, зрабіць яе папулярнай, але разам і паважнай, разумна прадстаўляючай усе жыцьцёвыя падзеі, як палітычныя, так і грамадзкія, каб наш народ навучыўся глядзець паважна і правільна на жыцьцё. Толькі тады „Хр. Думка“ споўніць сваю ролю: яна ўсьведаміць бел. каталіцкае насельніцтва і абароніць яго ад польскіх газэт і ад палянізацыі. У гэтым яе гістарычная роля. Дагэтуль яна свае ролі належна не спаўняла.

### „Адвешаньне“ „Белар. Крыніцы“.

Віл. Гарадзкі Суд з даручэньня Апэляцыйнага Суду дня 25. II. г. г. разглядаў і адмяніў пастанову Акружнога Суду аб спыненьні „Бел. Крыніцы“. Газэта будзе выходзіць ізноў. Пракурор падаў апэляцыю.

### Спозьненыя канфіскаты.

Віл. адм. ўлады сканфіскавалі нядаўна дзьве кніжачкі: *„Сон Гаўрылы“*, апавяданьне Улад-Ініцкага і *„Шум баравы“* М. Васілька. Абедзьве кніжкі вышлі ў 1929 г.

### Бел. Каталіцкая Акцыя.

Пару гадоў таму беларусы-каталікі м. Вільні зьвярнулія да каталіцкіх дух. уладаў з просьбаю пацьвердзіць Статут Бел. катал. акцыі. Статут быў высланы аж ў Пазнань, дзе месьціцца Цэнтраля Кат. акцыі на ўсю Польшч. Але там адказалі, што самастойнай беларускай кат. акцыі быць ня можа, дзеля гэтага Статут ня можа быць пацьверджаны, а бел. кат. акцыы можа існаваць, як сэкцыя пря

---

беларускага аматарскага прадстаўленьня і то на гадзіну перад прадстаўленьнем, на якое сяляне ішлі за 15 кілёмэтраў... І такіх забарон было многа.

На бел. вёсцы нарастае новае пытаньне: пытаньне бел. інтэлігенцыі, якая ня мае выхаду, жыве ў бядзе а няраз і ў галіце, і зьяўляецца часто дзейнікам фэрмэнту на вёсцы. Трэба іх паклікаць на некаторыя ўрадавыя пасады на мейсцы — і гэта давядзе да збліжэньня паміж адм. уладамі і вёскай. Прысыланьне на ўрады чужых элемэнтаў ёсьць палітыкай шкоднай.

„Пане Прэм'ер, зварочваецца В. П. да ген. Складкоўскага, я веру ў Вашую вялікую энэргію і дзеля таго чакаю, што Вы выкараніце прынцып здагадваньня і падазраваньня дзяржаўнай нелёяльнасьці ў грамадзяніна нашай дзяржавы, які выразьней за іншых прызнаецца да беларускай народнасьці. Веру, што вы зьвернеце ўвагу на бессэнсоўнасьць адміністрацыйных караў, якія зьяўляюцца аружжам у рэгуляваньні нацыянальных спраў; што Вы спыніце оргію гэтых караў, якія накладаюцца на селяніна за дрэнна прывязанае вядро, за студню, за сьметнік, за сабаку — тады, калі зусім ня ідзе ані пра вядро, ані пра студню, ані пра сьметнік, ані пра сабаку, а толькі пра нацыянальную палітыку, як прычыну да налажэньня якой дакучнай кары. Калі нехта сапраўды правініўся, няхай будзе пакараны; калі хто вядзе работу шкодную для дзяржавы, няхай адчуе на сабе караючую руку справядлівасьці, але злоснасьць, дакучнасьць — гэта толькі паніжэньне павагі Дзяржавы ў вачох грамадзяніна“.

Далей пас. В.П. гаварыла пра самаўрад, які павінен быць грамадзкай школай для насельніцтва, а які сваей ролі не спаўняе і, складаючыся з людзей чужых і нялюбых, будзіць таёмны гнеў у людзей, якія кажуць: „гэта паны пануюць“. Будучыя выбары ў самаўрад павінны быць абавязкава выкарыстаны, як школа грамадзкага жыцьця, а не як штука (wyczyn) адміністрацыі. На войта ня можа быць выбраны той, хто ня плаціць падаткаў; апроч гэтага ён павінен мець давер грамадзянства. Трэба зьмяніць дакучлівыя для насельніцтва ўставы, як напр. рыбацкая ўстава, якая стала галоснай з прычыны ведамых падзеяў над Нарачам і якая ўстрымана дзякуючы інтэрвэнцыі прэм'ера. Трэба інакш абдумаць змаганьне з самагонствам, трэба ўпарадкаваць дзяржаўныя і самаўрадавыя падаткі і зьменшыць кошты за праваточку ў аплаце падаткаў і за экзэкуцыю. Статыстыка кажа, што чысты даход з гаспадаркі ў Фінляндыі выносіць 94, Эстоніі 93, Латвіі 80, а ў Польшчы... 16. Стыдна, што кожнае лета з вялікай дзяржаўнай Польшчы ідуць тысячы работнікаў і работніц у Латвію на заработкі да латвійскіх сялян. Эканамічнае падняцьце гэтых земляў, так моцна перанаселеных — гэта адзін з канечных варункаў зьвязаньня іх з Польшчай.

Урадавец, які мае беспасрэдную стычнасьць з беларускім насельніцтвам, павінен ведаць бел. мову, каб магчы паразумевацца з гэтым насельніцтвам. Для многіх бел. вёсак справа навучаньня бел. мовы ня мае значэньня, але ў скольki-ж гэта вёсках паліцыя ліквідавала вельмі арыгінальным спосабам просьбы, падпісаныя сялянамі, аб навучаньні беларускай мовы! Гэта ёсьць нядобрыя карты нашых працаў на гэтых землях. Гэтак далей быць ня можа. Разумная і памяркоўная ўступчывая палітыка канечне павінна быць уведзена ў жыцьцё. Трэба так-жа пашыраць польскую прэсу, якой разыходзіцца вельмі мала. Затое вельмі многа разыходзіцца расейскай прэсы, якую насельніцтва чытае, ня маючы даступнай беларускай прэсы. Замена бел. прэсы на расейскую ёсьць з польскага пункту гледжаньня слабым здабыткам. Ня можна дапусьціць да экспансіі расейскіх эмігрантаў на праваслаўных беларусаў.

Падсумоўваючы ўсё, В. Пэлчынская сьцьвярджае: што ў рамах Польшчы існуе беларуская праблема. Беларусаў можна толькі тады засыміляваць, калі-б яны самі гэтага захацелі, дык трэба стварыць такія варункі. Калі-ж бел. сьведамасьць будзе паўставаць на грунце змаганьня з Польшчай, тады справа праіграна. Трэба зрабіць усё, каб гэтая сьведамасьць не вырастала з пачуцьця крыўды. Мусім знайсьці супольны язык з нацыяльнымі бел. дзеячамі і прыцягнуць іх да супольнай будаўнічай працы і да супольнай барацьбы з імпэр'ялізмам, ідучым з усходу...

Гэтак прадстаўляецца ў скарочаным зьмесьце прамова пас. В. Пэлчынскай. Удзялілі мы ёй болей месца з тэй прычыны, што яна зьяўляецца ў нашых цяжкіх часох сапраўдным мэтэорам, які хоць і не даляціць да зямлі, то ўсёжтакі дасьць крыху сьвятла і гуку. Тут мусім адзначыць, што паміма некаторых і вельмі сьветлых мамэнтаў, мы з гэтай прамовай цалком згадзіцца ня можам, асабліва з тымі мясцамі, дзе яна жадае стварыць у Польшчы такія варункі, каб беларусы спольшчыліся самі сабою. Ці такая „натуральная“ сьмерць бел. народу была-б для п. Пэлчынскай прыемнай? В. Пэлчынская разглядае беларускую справу з боку польскага, а мы — з беларускага і ў гэтым ляжыць прычына нашага разыходжаньня.

Праўда — ў гэтай прамове ёсьць мнота шчырага сэнтымэнту і спагаднасьці да беларускага народу, чаго мы ўжо здаўных ня чулі — і за гэта вялікі дзякуй; але зыходзячы на грунт разумовы і рэальны, трэба паставіць яшчэ адно пытаньне: якое практычнае значэньне мае гэтая прамова і што яна дасьць для беларусаў? Спытаемся болей: ці гэтая прамова будзе пачута тымі дзейнікамі, да каторых была адрасавана? У гэтым мы маем вялікія сумнівы, хоць яе і зьмясьціў урадавы „Kur. Wileński“. Бо чытаючы гэную прамову, мы нідзе не знайшлі сьледу, каб хтоколечы з польскіх паслоў у сойме нагарадзіў В. Пэлчынскую воплескамі. А гэта дрэнны знак. Магчыма, што гэтая прамова не знайшла водгуку і ў дзяржаўных дзейнікаў. А тады прамова В. П. была-б толькі голасам крычачага ў пустыні...

Мы яе адзначаем паміж тымі галасамі, якія аказаліся ў абароне беларусаў у гэты трудны час...

*Г.*

---

*БЕЛАРУСЫ, калі хочаце ўсебакова пазнаць беларускую і сусьветную палітыку, выпісвайце „Беларускі Фронт“! Прысылайце складкі і ахвяры! Пашырайце газэту пасярод сваіх знаёмых!*

# На міжнародным грунце.

*(Агляд міжнароднай палітыкі за месяц люты).*

### Каля гішпанскіх падзеяў.

У Гішпаніі змаганьне паміж паўстанцамі і ўрадаўцамі ідзе далей і робіцца штораз болей крывавым. Даволі сказаць, што часам франтовыя бітвы прыпамінаюць такія-ж бітвы з часоў Вялікай вайны паміж немцамі і французамі Дзеля гэтага і лік забітых і раненых аграмадны, хоць аканчальнай перамогі аднэй або другой стараны ня відаць. Паўстанцы ў лютым здабылі вялікі партовы горад Малягу; каля Мадрыту пасунуліся на ўсход, акружваючы яго. Каб не дапусьціць да акружэньня Мадрыту, урадаўцы пераходзілі некалькі разоў у контратаку, але бяз большых рэзультатаў. Накалькі заўзятыя былі бітвы, сьведчыць сьмерць некалькіх вышэйшых войсковых як з аднэй стараны, так з другой. Газэты падавалі, што на полі бітвы быў знойдзены забіты бальшавіцкі генэрал Лістэр! Урадоўцы, каб выраўняць страту Малягі, стараюцца ўзяць разам з баскамі г. Овіэдо, дзе бaі адбываюцца на вуліцах гораду. Трэба сказаць, што паміма крывавых бітваў, абодва праціўнікі астаюцца без аканчальнай перамогі.

Тымчасам каля Гішпаніі падзеі разьвіваюцца. Англія, якая зарганізавала ў сябе ў Лёндыне камітэт дзеля неінтэрвэнцыі ў Гішпаніі прымушае іншыя дзяржавы спыніць помач ваюючым старонам. І дабілася таго, што ад 21.II. спынены набор ахвотнікаў, а ад 6.III. ўводзіцца кантроль гішпанскіх берагоў, каб ніхто ня мог дасылаць помачы. Кантроль маюць выконываць: Англія, Францыя, Нямеччына і Італія. Саветы ад кантролі адказаліся. Ім было дадзена баскійскае ўзьбярэжжа (што пры бурнай Біскайскай затоцы), а яны хацелі праводзіць кантролю на Міжземным моры. Проціў гэтага запратэставала Італія і Саветы вышлі з ліку кантралюючых дзяржаў.

Калі ўсе заінтарасаваныя дзяржавы згадзіліся на кантролю берагоў Гішпаніі і на спыненьне помачы для ваюючых праціўнікаў, дык трэба дапусьціць, што гэтая помач ужо дадзена цалком і цяпер толькі астаецца праціўнікам „разыграць ігру“...Але кажуць, што гэтая крывавая ігра працягнецца яшчэ некалькі месяцаў. Кажуць так-жа, што Гітлер і Муссоліні пэўныя, што перамогуць паўстанцы, бо інакш не згадзіліся-б на кантролю. А можа будзе так, што кантроль кантролем. помач помачай...Саветы быццам зьнеахвоціліся да Гішпаніі, бо там бяруць верх трацкісты і анархісты, якія не прызнаюць Сталіна. Адна толькі Маляга была верная Сталіну, але і тая пала.

### Англійскія ўваружэньні.

Адназваючы на нямецкія жаданьні калёніяў, Англія апрацавала вялізарны плян марскіх уваружэньняў. Гэты плян зьвярнуў увагу ўсяго палітычнага сьвету. Даволі сказаць, што на свае ўваружэньні Англія празначыла на бліжэйшыя пяць гадоў, лічачы на польскую валюту, *сорак мільярдаў* злотых, што раўняецца 40 прац. усяе маемасьці Польшчы! (Польшч выдае на ўваружэньні штогод 1 мільярд злотых: 750 мільёнаў з агульнага буджэту і 250 мільёнаў з пазычак). Пры такіх уваружэньнях Англія хоча апярэдзіць ня толькі Нямеччыну, але і іншыя дзяржавы, якія знаходзяцца ў саюзе з Нямеччынай (Італію і Японію). Але некаторыя палітычныя кругі дапускаюць, што ў гэтых англійскіх плянах ёсьць і дыплёматычная хітрасьць, бо абвесьціўшы ўсяму сьвету аб сваіх вялізарных уваружэньнях, яна думае прымусіць Гітлера і іншых пайсьці на ўступкі... Але калі гэтых уступак ня будзе, што тады? Тады астаюцца ўваружэньні. З усяго відаць, што Нямеччына, якая выдала ў працягу 4 апошніх гадоў на ўваружэньні таксама каля 40 мільярдаў зл., на ўступкі ня пойдзе і будзе дамагацца для сябе калёніяў з штораз большай рашучасьцю На гэту дарогу пхае Нямеччыну вялікая эканамічная бяда: ў гэтым прамысловым краі людзі ня маюць чаго есьці, асабліва адчуваецца недахват тлушчаў (сала, масла і г. д.), тады калі багатая Англія мае ўсяго ўдоваль. Гэтая бяда пхае Нямеччыну на дарогу рашучых пастановаў...

### Чэхаславачына ў небясьпецы.

У апошнім часе, як ведама, утвараліся дзьве палітычныя восі, каля каторых круціцца сусьветная палітыка: адна вось — гэта Рым—Бэрлін, а другая —Парыж—Лёндын. Адна фашыстоўская, а другая — адным словам яе трудна назваць, але назавём яе лібэральна-камуністычнай. Да першай належаць: Нямеччына, Італія, Аўстрыя, Вэнгрыя і —далёкая Японія. Гэтая вось ідэолёгічна болей суцэльная і дзеля гэтага болей сцэмэнтавана. Да другой восі належаць: Францыя, Англія, Чэхаславаччына і Саветы. Гэтая вось ня мае такой ідэалёгічнай суцэльнасьці, як першая, бо да яе належаць і лібэральна-дэмакратычныя дзяржавы і адна камуністычная. За Гішпанію адбываецца ўжо сёмы месяц крывавае змаганьне

Гэтакае-ж змаганьне гразіць, Чэхаславаччыне. У апошнія месяцы нямецкая прэса падняла страшную агітацыю проціў Чэхаславаччыны, якая ляжыць якраз на дарозе Бэрлін — Будапэшт (сталіца Вэнгрыі) і каля восі Бэрлін — Рым. Чэхаславаччына, як ведама, належыць да француска - савецкага саюзу і апынулася цяпер у вельмі трудным, як вонкавым так і нутраным, палажэньні. Навонкі яна акружана бадай з усіх бокаў варожымі дзяржавамі, а ўнутры мае вялікі процэнт немцаў (каля 3 мільёнаў) і вэнграў (каля мільёна), якія цягнуць да сваіх краёў. Пасьля заключэньня польска-нямецкага пакту (26.I. 35), Чэхаславаччына пачала падазраваць і Польшч у варожых плянах, ідучых да падзелу Чэхаславаччыны, згэтуль яе варожыя адносіны да Польшчы. Апошнім часам пачалі псавацца адносіны і з Румыніяй асабліва пасля апублікаваньня кнігі чэскага пасла ў Румыніі *Шэбы* пад заг. „Расея і Малая Антанта ў сусьветнай палітыцы“. У гэтай кнізе Шэба выказвае некаторыя пляны чэхаславацкай палітыкі, на каторыя другія сябры Малой Антанты (Румынія і Югаславія), згадзіцца ня могуць. Каб мець супольную граніцу з Саветамі Шэба жадае, каб Усх. Галіччына і наагул Усходнія землі Польшчы па раку Буг адыйшлі да Саветаў... Гэтая кніга ведамага дыпляматa, ды яшчэ маючая уступнае слова чэскага міністра заграцічных спраў, зрабіла цэлую сэнсацыю і выклікала шмат пратэстаў, так што мін. Шэба мусіў выехаць з Румыніі. Але на гэтым справа ня скончылася, бо агітацыя проціў Чэхаславаччыны зрабілася яшчэ сільнейшаю. Дайшло да таго, што нават частка англійскай прэсы пісала, што паўстаньне Чэхаславаччыны было аднэй з вялікіх памылак пасьлявaеннай палітыкі...

Але яшчэ большай сэнсацыяй было апублікаваньне адным англійскім часапісам весткі, што падчас каранацыі англ. караля, калі Англія будзе занята сваімі нутранымі справамі, мае выбухнуць у Чэхаславаччыне паўстаньне вэнграў, потым немцаў і што тады Гітлер мае выслаць туды армію дзеля абароны нямецкіх інтарэсаў... Гэта ўсё мае стацца ад 12 мая да палавіны чэрвеня...

Ясная рэч, што да ўсяго гэтага ня дойдзе, бо да сусьветнай вайны яшчэ зарана, а тыя пляны, аб якіх ужо ведама, трудна правесьці, хаця б нават і дапусьціць думку аб магчымасьцях нутраных закалотаў у Чэхаславаччыне. Павадыры чэскай палітыкі аб гэтым ведаюць і пачалі гутаркі аб уваходзе немцаў і інш. нацыянальных меншасьцяў у ўрад.. Значыць Чэхаславаччына перад вонкавай небясьпекай цэмэнтуецца ўнутры і пачала гутарку нават з польскай меншасьцю...

---

дыэцэзіі. Пачаліся стараньні, каб у Віл. архідыэцэзіі залегалізаваць хоць сэкцыю гэтай акцыі, але пасьля многіх абяцанкаў і адкладаў было заяўлена ад імя Архідыэц. Інстытуту Кат. Акцыі ў Вільні, што і сэкцыя ня можа быць зацьверджана.. Такім парадкам беларусы-каталікі ў Вільні астаюцца як без свайго касьцёла, так і без кат. акцыі..

### Новыя лекарскія сілы.

Сёлета скончылі мэдычныя навукі на Віл. Унівэрсытэце два маладыя беларусы: В Войтэнька і В. Тумаш. Новым беларускім лекарам шлём прывітаньне разам з пажаданьнем вытрываласьці ў грамадзкай і народнай працы!

## З Польшчы.

### Дэклярацыя палк. Коца.

Дня 21.II. г.г. палк. Коц абвесьціў праз радіо ідэолёгічную плятформу новай проўрадавай партыі, якая названа „Obóz Zjednoczenia Narodowego“ (OZN). Дэклярацыя гэта мае вялікае палітычнае значэньне, як з гледзішча ідэолёгічнага, так з тэй прычыны, што палк. Коц зьяўляецца мужам даверу марш. Рыдз-Сьміглага. Праўда, дагэтуль ані марш. Рыдз-Сьміглы, ані ўрад афіцыяльна ня выказалі сваіх адносін да дэклярацыі, аднак неафіцыяльна ведама, што дэклярацыя абвешчана з апрабаты марш. Р. Сьміглага і зьяўляецца ягонай праграмай.

Дэклярацыя мае 9 пунктаў: 1) жыцьцё дзяржавы апіраецца на новай канстытуцыі з найвышэйшым аўторытэтам Прэзыдэнта. 2) армія ёсьць важным дзейнікам злучэньня і абароны дзяржавы; 3) Дзяржава ёсьць адзінай формай правільнага і здаровага быту народу. Яна даець народу тэхніку магутнасьці і арганізацыю яго разьвіцьця. 4) Каталіцкі касьцёл павінен мець належную апеку, адносіны да іншых веравызнаньняў рэгулююцца канстытуцыяй. 5) для камунізму ў Польшчы ня можа быць месца, бо ён гразіць яе незалежнасьці. Астаўляецца прыватная ўласнасьць і ініцыятыва, аднак дзяржава мае кантролю над прадукцыяй, асабліва ваеннай. 6) Падняцьце гаспадарчага палажэньня вёскі. 7) Разьвіцьцё гарадоў, промыслу, рамясла і польскага гандлю. Гарады і мястэчкі маюць споўніць вялікую дзяржаўную місію. 8) Навука, культура і мастацтва ёсьць жаралом духовых і матар'яльных вартасьцяў народу і будуць акружаны апекай. 9) Адносіны да нац. меншасьцяў будуць абапёрты на братнім грамадзкім сужыцьці. Прызнаецца іх аддзельнасьці. паколькі не нарушаюць інтарэсаў дзяржавы і не выклікаюць ненавісьці. Уканцы заклікаюца ўсе жывыя сілы на супрацоўніцтва на падставе гэтай дэклярацыі.

Як бачым, у дэклярацыі ня сказана нічога новага. Рожніца паміж даўнейшым ББ і OZN у тым, што ББ ня мела адзінай ідэолёгіі, а гуртавалася каля асобы марш. Пілсудскага, а OZN мае адзіную ідэолёгію. Спачатку думалі, што новая партыя будзе ўводзіць *тотальны* строй у дзяржаве, г. зн. абхопіць *адна* усе праявы дзяржаўнага жыцьця, так як у Італіі або Нямеччыне, але пазьнейшыя падзеі запярэчваюць гэтаму. Партыя ня будзе мець унівэрсальнасьці, бо хоць запрашваюцца ўсе, то ня ўсе будуць прыняты. З нац. меншасьцяў у дэклярацыі успамінаюцца паіменна толькі жыды, аб іншых, а ў тым ліку і беларусах, ня сказана нічога.

Да новай партыі далучыліся бадай ўсе дзеячы даўнейшага ББ, урадаўцы, грамадзкія групы і некаторыя сялянскія арганізацыі (кадзіхлопы) разам з сваімі газэтамі; Sztandar Chłopski, Gazeta Chłopska, Gospodarz Polski, Wieś, Młoda Wieś, Wyzwolenie і інш. „Направа“ мае засьцярогі да дэклярацыі, называючы яе кансэрватыўнай, тое самае і ZZZ з сваім „Głosem Powszechnym“, але здаецца, гэтыя абезьве арганізацыі ў OZN увойдуць, бо залежны ад ўраду. Ходзяць чуткі аб разламе ў гэтых арганізацыях у сувязі з дэклярацыяй палк. Коца. Нэгатыўна аднесьліся да дэклярацыі ППС і Стронніцтво Людовэ („Piast“, „Zielony Sztandar“) а такжа ўсялякай масьці эндэцыя: радыкальная і меней радыкальная. Кансэрватысты, хоць спаткалі дэклярацыю клічам „брава“ (віл. „Słowo“), аднак занялі становішча крытычнае і ў партыю не ўвайшлі. Відаць хочуць для сябе ўступак. Шмат газэт за крытыку дэклярацыі было сканфіскаваных.

### Ліквідацыя „Dziennika Popularnego“.

У Варшаве пару месяцаў таму пачала выходзіць вялікая штодзенная газета „Dziennik Popularny“, якая стаяла выразна на грунце г. зв. „людовага фронту“ і гуртавала каля сябе левыя і камунізуючыя элемэнты. Мела яна пасярод польскай лявіцы вялікія ўплывы і выходзіла ў ліку 30 тыс. экзэмпляраў. Усіх сваіх праціўнікаў, як гэта звычайна робіцца, называла рэакцыяй і фашыстамі. Прыцягнула да супрацоўніцтва двух пэпээсаў: Барліцкага і Дюбуа. Дня 2. III. г. г. „Dz. Pop.“ Варш. Акр. Судом завешаны і пракуратура прыступіла да ліквідацыі газэты. Былі праведзены рэвізіі—і ўсіх супрацоўнікаў у ліку 14 чалавек арыштавана (апроч Барліцкага і Дюбуа). Газэты пішуць, што паводле знойдзеных кампрамітуючых матар'ялаў рэвізіі і арышты адбываюцца і на правінцыі (ў Кракаве). Пры няўдачах у будаваньні „людовага“ фронту мае паўстаць у Польшчы „*дэмакратычны фронт*“, на чале каторага стаяць ППС і Строн. Людовэ.

---

*ГРАМАДЗЯНЕ! Многія з Вас ужо пазнаёміліся з нашай газэтай „Беларускі Фронт“. Гэта незалежны орган беларускай палітычнай думкі; ён кожны месяц прыносіць Вам агляд беларускага жыцьця, міжнароднай палітыкі і паказвае правільны, незалежніцкі шлях беларускай палітыкі.*

*Дык выпісвайце і пашырайце „Бел. Фронт“! Прысылайце складкі і ахвяры!*

*Грошы прысылайце „przekazem rozrachunkowym“ Nr. 100 на адрас: Wydawnictwo „Biełaruski Front“, Wilno, ul. Ostrobramska 2—11.*

---



---

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ“ выйдзе 5-га красавіка.*

Рэдактар-Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.